Міхась Губерматараў

# ПАВЕРКА



МІХАСЬ
ГУБЕРНАТАРАЎ

# ПАВЕРКА

ВЕРШЫ



ВЫДАВЕЦТВА
«МАСТАЦКАЯ
ЛІТАРАТУРА»
МІНСК 1973



* * *

«Добры дзень!» — гучыць заветна
Каля кожнага двара —
Чалавечая прыветнасць
З пажаданнямі дабра.

«Добры дзень, мая матуля!»
А ў адказ яшчэ здалёк;
«Чула сэрца маё, чула,
Ну, што добрага, сынок?»

«Добры дзень, мая нявеста!
Колькі светлай дабраты
Неслі радасныя весткі —
Твае цёплыя лісты».

З кім жыву на белым свеце,
З кім страчаюся штодня:
«Добры дзень, мае суседзі,
І прыветная радня».

Аніхто з нас не забудзе
Родны край і родны дом.
«Добры дзень!» — кажу я людзям
І страчаюся з дабром!

## РАДЗІМЕ

Табе і шчырасць і любоў спаўна
У парыве выкажу адзіным —
Матуля ў кожнага адна —
Адна і ў кожнага радзіма.
Сцяжынка,
                ластаўка,
                                рака —
І тое многае ў прыкмеце,
Што нам,
                як матчына шчака,
Цяплей за ўсё на белым свеце.

* * *

Беларусь сыноў не далічыла
І ў маім знявечаным сяле.
Не хапала вашых рук,
мужчыны, —
Не хапала хлеба на стале.
Не вярнуліся...
Зямлёю сталі,
Памяццю суроваю жывых.
Узышлі адны на п'едэсталы,
А другія — кветкамі ля іх.
Вашы галасы ўвабралі пушчы,
Вочы — найглыбейшыя з азёр,
Каб зямля была жывой, пявучай,
Самаю прыгожаю між зор.

# ТРАСЦЯНЕЦ

О ты, адчай асуджаных на смерць,
Што стануць жменькай попелу
                    і толькі.
Я па двары ступаю ледзьве-ледзь,
Здаецца, ўдарыць па суставах токам.
О, Трасцянец!..
І я на помнік гляну, —
І ажывуць, здаецца, галасы.
Тут нема плачуць,
            плачуць Несмяяны,
Што не даткалі ў Слуцку паясы.
Як памяць, —
        у блакіце аблачынкі.
О, колькі згасла тут жывых надзей!
Смыліць душа ад кожнае пылінкі,
І сэрца вырываецца з грудзей.

## ЦАЛАВАЛІ ЗЯМЛЮ САЛДАТЫ

Часам радасць бывае слёзнай,
Часам б'ецца крылатым птахам.
Помню:
        чэрвеньскім ранкам росным
Вызваленне прынеслі салдаты.

І была ў нас такая радасць!..
Крылы склаўшы,
                заціх вятрыска:
Цалавалі зямлю салдаты —
Дарагую сваю калыску.

## НАПАВЕР

Калі бяды жывая сведка —
Сляза — свяціла ля павек, —
У хату стукала суседка,
Прасіла хлеба напавер.
Бядою стомленыя грудзі,
Дачасны снег на галаве...
— Бярыце, хіба ж мы не людзі,
Мы знаем, дзе ваш чалавек:
Бярыце,
        цётухна,
                бярыце, —
Мы дзелім гора напалам.
Не хутка перапёлка ў жыце
Жніво абвесціць каласам.

. . . . . . . . . . . . .

Калі прыйшло да цёткі свята —
І маці госцяю была.
І не бяда, што цеснавата,
Затое светла ля стала.

# МАЛЕНСТВА

Навыперадкі з рэхам
Пад сонныя дубы
Ты бегла па арэхі,
Па росныя грыбы.

На гонкую сасонку
Узбіраліся з табой.
Здавалася, да сонца
Дацягнешся рукой.

Каціўся шар барвовы
Над завaддзю ракі.
У кошыку лазовым
Нясла баравікі.

І ён рыпеў натужна,
Паўнюткі пад лучок...
А неўзабаве птушкай
Ляцела за барок.

* * *

І сум — душы маёй паверка,
Не пець жа вечна салаўём.
Ты ж, радасць, — добрая паненка —
Не абыходзь мой дом.
Ужо далёкі міг расстання,
Змяніла ціша майскі гром.
Ты чуеш,
верпае каханне,
Не абыходзь мой дом.
Даўно пісьма няма ад сябра,
Ну, хоць пацешыў бы лістом.
Чакаю ў госці яго заўтра, —
Не абыходзь мой дом.
У светлы май,
у люты студзень —
Калі каго й не пазаву —
Не абыходзьце мяне, людзі,
Каб знялі вы, як я жыву.

* * *

Мой галасісты сіні бор,
Іду табе я пакланіцца.
І шапкі пругкія грыбоў
Ярчэй зіхцяць ад навальніцы.

Я лета кратаю рукамі —
Дажджы,
маланкі і грамы
Бяру і ў кошык апускаю
Перад паходняю зімы.

Шукаю выйсця на гасцінец
Па сонцу,
кволай сіняве,
Дзе, як бягун істужку, рве
Крылаты вецер павуцінне.

* * *

Мы паўторымся ў коласе жыта,
Выйдзем хваляю светлай на бераг,
Толькі будзе мацней граніту
Клятва наша і наша вера.
Толькі сонцу, дымам закрытаму,
Над Радзімаю зіхацець,
Толькі сцягу,
крывёй абмытаму,
Што ні дзень,
то вышэй шумець.
Толькі песні ў душы прамяніцца,
Толькі дружбе людской расці...
Нехта коласам плодным вернецца,
Нехта зоркаю праляціць.

* * *

Мне заўсёды цябе не хапае,
Як зялёнай галінцы сонца.
Сталі пеклам і сталі раем
Чараўніцы — мае бяссонніцы.

Не хапае цябе, не хапае
Звонкай раніцай, ціхім вечарам.
Сталі пеклам і сталі раем
Прадчуванні нашай сустрэчы.

Што яшчэ да цябе я маю?
Каб сказала ты мне аднойчы:
«Не хапае цябе, не хапае,
Мой хлопчык».

* * *

Да мяне спяшае цёмна-русая —
З факультэта роднага майго.
Можа, так спяшалася да Труса
Паўлюка абранніца яго.
А пасля,
            чытаючы ў газетах,
Пра сябе лірычны маналог,
Дакарала шчырага паэта,
Што ён тайны іхняй не збярог.
Пры сябрах гублялася,
                                няела,
Калі ён, шырокі у плячах,
Голасам ласкавым і нясмелым
Новае спатканне прызначаў.
Да мяне спяшае цёмна-русая,
Мы хвіліну нейкую маўчым.
У яе далонях томік Труса
І газета з вершыкам маім.

* * *

Дзе ж ты, шэрая зязюля
З касцюковіцкіх лясоў?
Я не быў даўно,
                    матуля,
У цябе і ў землякоў.
Толькі адрасам адзіным
Абазнацца не магу —
Добры дзень, мая радзіма, —
Паплавы у мурагу!
Я зайду ў любую хату —
Нехта радасна ўздыхне.
Магілёўскія дзяўчаты
Не забылі пра мяне...
Дзякуй вам,
            палі,
                дубровы,
Што душой не ачарсцвеў.
Дзе у неба жаўрукова
З рук матуліных ляцеў.

## ТВАЯ БЯССОННІЦА

Ноч па хаце ступае босая...
Душны ложак і пухавік.
Над табою, над русакосаю,
Ціха моліцца маладзік.

З таямніцамі доўга раішся
Асцярожна і палахліва.
Цяжка,
        цяжка заснуць да раніцы,
Недаверлівай і шчаслівай.

Спаць табе не дае акацыя —
Ночку цэлую непакоіцца:
Дакранаецца ціха пальцамі
Да акна,
        да тваёй бяссонніцы.

2 Заказ 1837

* * *

Так шапоча юная бяроза,
Так вясною пахне вербалоз.
Так іскрыцца,
вымытая ў росах,
Яблыня — ружовая наскрозь.

* * *

Неба з сонцам прыгалубіцца,
Рэчка — з берагам крутым.
І зжывецца свет і злюбіцца,
Каб застацца маладым.
Песня ў ветра запытаецца:
Ці самотна без яе? —
Траўка ціха захістаецца,
Як вятрыска запяе.
Нехта радасна прытуліцца
Да шчакі ці да рукі.
І зжывецца свет і злюбіцца
Аж на доўгія вякі.

* * *

У сёмушкі ткала палотны,
Плавалі два чаўнакі.
Потым мяне ты, малога,
Слаць іх вяла да ракі.
Колькі дзіцячай уцехі
І весялосці было!
Ногі, як самі хацелі,
Неслі мяне за сяло.
Ціха рака варажыла,
Голас запомніўся твой —
Пела аб тым, як чужыя
Спаць не далі маладой.
Вось і палотны пасланы,
Нібы дарогі ляглі.
«Ты не будзі мяне рана», —
Словы ў душы узышлі.
Мама, ты мне раскаціла
Светлае ў шлях палатно.
Недзе ля роднай хаціны
З песні саткана яно.

* * *

Вось і маё дарагое сяло,
З песнямі дзе мы у школу хадзілі.
Колькі рассыпана думак і слоў
Тут,
на Радзіме.
Вось і рачулка малая мая —
У пуху гусіным.
Як не паслухаць свайго салаўя
Тут,
на Радзіме.
Як не паслухаць, як травы растуць
Тут,
на маёй сенажаці,
Як за ракою дзяўчаты пяюць:
«Ой, не аддай мяне, маці...»

* * *

Салдаты песню пелі «Полюшка»,
А ў чыстым полі,
ўскрай дарог
Гуляла іх ліхая долюшка,
Свінцовы сеяла гарох.
Салдаты песню пелі «Полюшка»,
Шапталі мацеркі зарок:
— Вярніся,
мой сыночак Колюшка,
— Вярніся,
родны Іванок.
Салдаты песню пелі «Полюшка»,
Засмяг ад спёкі васілёк.
На танк ішоў з гранатай Колюшка,
На амбразуру — Іванок.
Салдаты песню пелі «Полюшка».
Дыміўся свежы курганок.
Заснуў у полі чыстым Колюшка,
А ля дарогі — Іванок.

* * *

У тым далёкім у сорак пятым
Кавыль курыўся ля дарог.
Дамоў вярталіся салдаты,
З вайны вярталіся, здалёк.
Ды не ва ўсе глядзела вокны
Святая радасць на зямлі:
Удоў заплаканыя вочы
Асеннім вераснем цвілі.
Былі няўцешнымі іх раны,
І толькі зрэдку, проста ў сны
Да іх прыходзіла каханне,
Што не вярнулася з вайны.

## У НОВЫМ ДОМЕ

Для мяне было ўсё нечаканым —
Ты з усходам сонца ўвайшла.
І ў пакоі, не атынкаваным,
Дзынкнула залётная пчала.
Чыстыя кляновыя масніцы
Радасцю прасвечаны наскрозь.
Пакацілі сонца каляснiцу,
Калі промні ўпалі за парог.
Гэблем чыста згладжаныя дошкі,
Пад нагамі любай ціхі рып.
Будуць тут сыны і будуць дочкі,
Калі пчолка плавае ўгары.

* * *

Душа мая, ты не закутак
Для недаверу і тугі.
Спяшаю ў царства незабудак
У прыдняпроўскія лугі.
Мяне, знаёмага бадзягу,
Дняпро вітае як свайго,
Я наталю ўспамінаў смагу
Ля круч зацененых яго.
І прыйдзе голас: «Не забуду» —
І хоць да болю закрычы...
Ах, незабудкі, незабудкі,
Не вінаваты вы ні ў чым.
Сцяблінку горкую камечу,
Як напамінак, у руцэ.
Вянок ля берага прыкмечу, —
Пушчу на хвалі па рацэ.

* * *

Восень, восень — павуцінка белая,
Арабін рубінавы агонь.
І чаму ты,
павуцінка,
села
Госцяю няпрошанай на скронь?!
Нешта ёсць таемнае ў прыкмеце,
Заглянуць у заўтрае карціць.
Не чапай жа павуцінку,
вецер,
Хай яна на скроні паляжыць.

* * *

Ай вы, гусі белыя,
Ды за сінім гаем.
І навошта бегла я,
Русая, малая?

Гагаталі, плакалі
Гусі у затоцы.
Ранак сіні плавіўся
На далонях сонца.

Зманутая вуснамі,
Словамі мядовымі,
Маладая, русая
Не начуе дома.

Верыцца — не верыцца:
Любага няма.
Над палямі шэрымі
Кружыцца зіма.

# ТАЛАКА

Хто пазваны, хто нязваны,
Была б сіла у руках! —
На падворак да Івана
Прывяла ўсіх талака.
Тут сусед каля суседа.
Жвава бегае піла.
Даручаюць справу дзеду,
Старшыне ўсяго сяла.
Непакоіцца бабуля —
Ты як хочаш разумей:
«Ах, дзядуля, ах, дзядуля,
Не бярыся за камель.
Ты ужо не маладзенькі —
Падалей жа ад бяды!..»
— Ды яшчэ б такому дзеўку... —
Хтось жартуе з маладых.
... І па даўняй завядзёнцы,
Каб вадзілася дабро,
Сыплюць, быццам промні сонца,
У падмурак серабро.

## ЛАДНА

Адкуль ты наша «ладна»,
Пявучае, як Лада?!
Як першы крок да справы
І ў ціхіх і ў рухавых.
Ты кім было ўзаконена
І ўпершыню абронена,
Падхоплена, як згода,
Душой майго народа?!
Не ўсё ў мяне так ладна,
Хоць гавару я складна.
Нярэдка б'ю у ладкі
І там, дзе непаладкі.
Паменьш, паменьш бы лаку,
Паболей бы нам «ладна».
Дык хай жа будзе ладна,
Суладна ўсё і складна.

## ЯГАДЫ ДУРНІЦЫ

Абросяць спадніцы
На золку кабеты.
Бягуць па дурніцы,
Па спелае лета.
О, сінія слёзы! —
Няма ў тым віны:
І самы
цвярозы
Тут стане п'яным.
Жанкі-маладзіцы —
Алены і Тосі... —
Злуюць брыгадзіры, —
Дзе чэрці іх носяць.
І толькі пад вечар
Прыходзяць кабеты.
Ім муляе плечы
Салодкае лета.

## СНЕГ

Ад былых уцех —
Успамін мярэжы.
Снег мой,
            белы снег,
Галаву заснежыў.
Чую светлы смех,
Чую звонкі голас.
Снег мой,
            белы снег,
Малады, вясёлы.
Лёгкіх санак бег,
Пульхныя аблокі.
Снег мой,
            белы снег,
Як душа, высокі!

* * *

Хіба ж вы,
дарогі,
вінаваты,
Што забралі у мяне спакой?!
Падыходжу да знаёмай хаты
І, здаецца, чую голас твой:
— Так чакала,
варажыла,
думала...
Ведаю, бо сам табою жыў.
А жыццё намростані прыдумала,
Каб яшчэ мацней цябе любіў.

* * *

Так жыць хачу,
каб смела ў вочы
Глядзець каханай і сябрам,
Каб не казаць,
што я аднойчы
Ступіў не так,
ступіў не там.
Каб не было тых агаворак
На ўзрост,
абставіны жыцця,
Каб мог заўсёды ўспыхнуць порах
Ад іскры светлай пачуцця.

3 Заказ 1837

* * *

Я не спаткаць цябе не мог —
Мой лёс з тваім не размінецца.
Мне тая выпала з дарог,
Дзе толькі мы маглі сустрэцца.
Я так чакаў той міг жаданы,
Пытаўся ў сэрца:
дзе ж яна?
А ты прыйшла неспадзявана
Адна,
як і чакаў, —
адна.

* * *

Год за годам на плечы кладзецца,
Ды суладней і ўсё званчэй
Усхвалёвана сэрца б'ецца
Пад паглядам юных вачэй.
Час тваёй не сатрэ прыгажосці,
Сэрца ўспыхне агнём маладым.
Мы з табою адной маладосці,
Прад якою адступяць гады.
Як і ў першае светлае ранне,
Не зважаючы на сівізну,
Пачуццё перахопіць дыханне.
Толькі голаў сваю прыхіну.
Мы ў жыцці не шукаем зацішша,
І няма ў нас «тваё» і «маё».
Мы ў дарогу далёкую выйшлі
Па вялікае шчасце сваё.

* * *

Вярста за вярстою нясецца,
А вочы заплюшчу на момант —
І птушкаю сэрца заб'ецца:
Дадому,
        дадому,
                дадому!
Былое ў душы ўскалыхнецца,
Там кожная сцежка знаёма,
Там раніцу будзіць вядзерцам
Матуля ля роднага дома.
З далёкіх ці з блізкіх пуцінак
Вярнуся да роднага дому —
На скроні ў матулі зазімак...
— Гады ўжо, сыночак, вядома.
Дадому,
        дадому,
                дадому!
Там радасці новай прадвесне,
Там кожная сцежка знаёма,
Званчэй мая родная песня.

* * *

Маўчання лёд не таяў,
А што было рабіць?!
Я знаю: ты не тая,
Што можа разлюбіць.
Ад позірку світае,
Трымціць душа мая.
Я знаю: ты не тая,
А лепшая ўдвая.

* * *

Дні мае, мае дарогі
Сярод безлічы другіх
Прагучаць,
як маналогі
Сціплых пошукаў людскіх.

* * *

Згіналі яблыні калені,
Маланкі — ўпоперак і ўдоўж.
З мяне смяяліся калегі,
Што я павёў цябе пад дождж.

А ён шумеў і тупаў звонка —
І столькі ў ім было святла,
Што мне здавалася вясёлка
За намі ў іншы свет пайшла.

## ГЕРОЙ

Відаць,
іначай ён не мог,
Любіць жыццё сваё зямное,
Якое складзена з дарог,
Дзе трэба быць самім сабою.

* * *

Добрая, святая патаемнасць —
Для мяне,
як салавей з рукі,
Калі ты,
падобная на вечнасць,
Прыхінешся да маёй шчакі.

Каб жылося,
горача кахалася,
Верш мой абрываецца на тым,
Як між вуснаў песня завязалася,
Толькі зразумелая двaім.

* * *

Не выцірайце, людзі, слёзы,
Калі ад радасці яны.
Паплачце светла, як бярозы
У час халоднае вясны.

Я іх люблю за ціхі роздум,
За незвычайны светлы лёс.
Паплачце,
людзі, як бярозы,
І не саромейцеся слёз.

І хай маршчынкі,
як барозны,
І хай на скроні сівізна,
Паплачце светла, як бярозы,
Якіх аблашчыла вясна.

Яшчэ святлейшым стане роздум,
На скронях — меней сівізны.
Не выцірайце, людзі, слёзы,
Калі ад радасці яны.

* * *

Не кратаць нам былыя раны,
Але адна праз цішыню,
Ідзе матуля да кургана,
Да кветкі вечнага агню.

Ніколі ён не адзавецца,
Заві яго ці не заві.
Ды пругка у далоні б'ецца
Агонь сыноўняе любві.

* * *

Ну і восень — густыя ліўні,
Жменя горкіх на голлі слёз, —
І прасватана бацькам — жніўнем
За сялом чарада бяроз.

Ім, бярозкам, яшчэ не верыцца,
Што даўно і не абы-каму
Аддала ў парабчанкі верасню,
Біць штодзённа паклоны яму.

Сеткай ліўня яны аплецены,
Ручнікі павязаў туман.
І спяшаецца на агледзіны,
Як свякруха, да іх зіма.

* * *

Ты, шчасце, на ўсіх адно —
З мазольных рук, усмешак ветлых.
А для мяне — маё акно,
Трывог маіх і думак светлых.

* * *

Дзяўчына ў вернасці клянецца,
I я клянуся ёй навек.
Між намі добра ўсё складзецца
У добры час,
у добры век.

Між намі добра ўсё складзецца, —
Крыніца ўсіх маіх надзей, —
Абы глядзеў мне шчыра ў сэрца
Тваіх вачэй вялікі дзень.

* * *

Дзе б мяне ты ні вадзіла,
Ды заўжды,
як адкрыццё —
Для мяне мая Радзіма
Праз усё маё жыццё.
І далёкія дарогі
Даражэй адна другой,
Што ля роднага парога
Сталі споведдзю маёй.
... Я да песні лебядзінай
Дажыву і ў міг адзін
Усё скажу табе, адзінай,
Так як маці родны сын:
Што шукаў я,
дзе хадзіў я,
Пад якім быў я агнём...
Гэта ўсё — мая Радзіма,
Мая песня і мой дом.

* * *

У кожным поглядзе празрыстым
Сваё мы нешта пазнаём.
Ты мне — крыніцаю вячыстай,
Табе я — светлым ручаём.

Не да канца яшчэ пазнана,
Як завязь ма́я на руках.
І ўсё ж ты будзь маёю тайнай,
Неразгаданай у вяках.

## КАМІСАРЫ

Гінулі ў дзікіх травах,
На баявых тачанках,
На крутых пераправах
Людзі ў чорных скуранках.
Смела плявалі ў вочы
Зграі лютай, варожай,
І паміралі на плошчах
Са словамі: «Мы пераможам!»
Ведалі: сцяг чырвоны
Другія падхопяць рукі.
Ім не было ўсё роўна,
Як будуць жыць унукі.
Хацелася,
                так хацелася
Заўтрашні ўбачыць дзень.
Кат жа ў сэрцы цэліўся
Самых чэсных людзей.
Чую іх голас роўны
На апошняй трыбуне:
«Не, не быць пакаронай
Светлай Камуне!»

* * *

Удзячны роднаму парогу,
Што дабрату ва мне расціў,
Я пачынаў сваю дарогу
Сярод лугоў,
шырокіх ніў.
Таму адкуль бы я ні ехаў —
У сэрцы выспеюць радкі
Маёй любві,
маёй уцехі
Да вас, бацькі і землякі.

## ВАСІЛЁК

Васілёк мой, васілёк,
Кім сюды занесены?
Ля цябе спыняю крок —
Сумна мне ці весела.

Ты ка мне, мой васілёк,
Горнешся і тулішся.
Трапіш дзеўчыне ў вянок —
Можа, і зажурышся.

Ды ўсміхайся ты смялей
Прыгажосцю дзіўнаю.
Ад цябе яшчэ сіней
Неба над радзімаю.

* * *

Даць бы дарогу ўсім лепшым жаданням,
Марам крылатым усіх змагароў,
Паўшым і тым,
хто ідзе на заданне,
Хто памірае пад звон кайданоў.

Даць бы дарогу тым, хто ў няволі,
Даць бы свабоду іх чэсным рукам,
Сэрцам,
якім не скарыцца ніколі
І сваю праўду данесці вякам.

## ЛЮДЗІ БЕЗ РАДЗІМЫ

О, як часта у сон іх прыхлыне Дняпро
І дарог незабыўных скрыжалі,
Зноў пачуюць яны,
як на гуслях вятроў
Паплыве: «А я жыта не жала...»

* * *

На парозе расстання,
Дзе з табой мы адны,
Я жыву прадчуваннем
Самай блізкай вясны.

Ты прыедзеш — я веру —
У зялёны мой кут,
Нас блакітныя вербы
Павядуць за раку.

Луг духмяны захмеліць,
Гром затрубіць у рог,
А пакуль — сто мяцеліц,
А пакуль — сто дарог.

А пакуль толькі ветры
Усе шляхі замялі.
А пакуль толькі вера,
Як вясна на зямлі.

* * *

Спачатку сон,
                    а потым ява:
Маўчалі, слухалі з табой,
Як цалаваў каліну явар
Пад густалістаю вярбой.

Ці чулі ў пошуме галінак,
Ці чулі ў плёскаце вады,
Што явар — я,
                    а ты — каліна
На ўсе гады, на ўсе гады —

І стала мара светлай явай,
Калі над ціхаю ракой
Шаптаў каліне нешта явар,
А я схіляўся над табой...

* * *

Парог мне родны будзе сніцца,
Бо тут,
    як вырашыў мой лёс, —
Закладзена душы часціца —
Маіх усмешак, маіх слёз.

* * *

Хто з нас быў — не ведаю — шчаслівы,
Хто каго давер'ем пакараў.
Бездакорна,
ціха і зычліва
Ля чужога грэюся кастра.

Мала мне цяпла твайго,
замала,
Ведаеш пра гэта і маўчыш.
Вуснамі гарачымі прыпала
І заснула ціха на плячы.

Не цябе шкадую — тваю шчырасць,
Слоў тваіх і ўроненай слязы.
Можа, ты майго кахання вырай,
Што яшчэ вярнуўся ў маразы.

* * *

Не, не сыну (я ўсё запомніў) —
Несла кветкі жанчына помніку.
Калі ліпы цвілі,
і ліпень
Асыпаў яго белым ліўнем.

На калені матуля ўпала,
У граніт упіліся пальцы.
Маці,
маці,
чаму ж на свеце
Так бывае,
што твае дзеці

Могуць бронзаю стаць,
гранітам,
А для ворага — дынамітам.
А для сэрца твайго трывогай:
Карацей бы дамоў дарога...

* * *

Заблытаўся ў арэшынах
Кавалак сінявы.
Я ў лес іду за вершамі
Па сцежках баравых.

Чытай лісты мядзяныя —
Тут класіка сама,
Адстуканая дзятламі,
Бяры і пераймай.

Табою не нацешуся,
Куток мой баравы.
Заблытаўся ў арэшынах
Кавалак сінявы.

* * *

Ад першага светлага юнага рання
Да самай апошняй нябліскай начы
Зямную трывогу — прысягу змагання —
Я ў сэрцы павінен, як сцяг, берагчы.
Да мудрай вяршыні жаданняў і думак
Пракласці дарогу з пачатку ў канец.
І песняю светлай і прозаю суму
Я ёй пакланюся, як сціплы баец.
З апошнім парывам,
З апошнім прылівам
Душу не пакіне жывы неспакой.
І я застануся шчаслівы, шчаслівы
Апошняю песняй, апошняй сяўбой...
Паўторыцца ўсё,
нібы сонца ў зеніце, —
Зялёныя травы і хмар караблі...
Кахайце,
чакайце,
жывіце,
свяціце,
О добрыя людзі, на добрай зямлі.

# ЗМЕСТ

На белорусском языке

*Михаил Алексеевич Губернаторов*

ПОВЕРКА

Издательство «Мастацкая літаратура» Государственного комитета Совета Министров БССР по делам издательств, полиграфии и книжной торговли. Минск, Советская, 19.

Рэдактар Хв. М. Чэрня. Мастак Л. В. Чурко. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал. Карэктар Л. М. Вайцяшэня.

АТ 08615. Здадзена ў набор 25/XII 1972 г. Падп. да друку 20/VI 1973 г. Тыраж 5000 экз. Фармат 84×108 1/64. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 1,68. Ул.-выд. арк. 1,3. Зак. 1837. Цана 14 кап.

Друкарня «Чырвоны друкар» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, зав. Калініна, 12.

**Губернатараў М.**

Паверка. Вершы. Мн., «Маст. літ.». 1973. 64 с.

Шчыра, па сыноўняму задушэўна піша малады паэт аб Радзіме, натхнёна ўслаўляе самае чыстае і светлае пачуццё на зямлі — юначае каханне. Хораша апаэтызавана прырода роднай Магілёўшчыны.

Г $\frac{0743\text{-}122}{М302(05)\text{-}73}$ 105-73

Бел 2
Г 93